Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. | Вільня, Пятніца, 11 ліпня 1919 г. | № 42.

*Вільня, 10 липня 1919 г.*

«Беларускае (панскае) жыцьцё», новая віленская часопісь, не пасьпеўшы слова сказаць у абарону гаротнага, бяздольнага беларускага селяніна, учадзела на унію з польскім панам і проста расьпінаецца, даводзячы, што польскі пан — якраз пара да беларускай безпасажніцы.

Калі гэтак сваволіць «Белаляшскае жыцьцё», а народ беларускі маўчыць, сьцяўшы зубы,—якраз тады прамаўляе народ польскі.

На тым тыдню ён прамаўляў на вуліцах Варшавы галасамі многатысячнай таўпы безработных.

Надовічы ён прамаўляў у сойме галасамі левых дэпутатаў: «Слава вам, паны—магнаты, за няволю нашу, за нашы кайданы»—пяяў у сойме польскі народ.

Далёка пачуюць людзі гэтую песьню.

I не адзін пан зламае галаву за тое, што прымусіў паляка-селяніна сьпяяць яе.

Сьпяяць яе цяпер у сойме ад раджонай Польшчы!

Але добра, што выйшла на тое.

Цяпер, прынамсі, і самыя няўзоркія і навекі сьляпыя і нявідушчыя людзі, якімі ёсьць і пісакі з «Белаляшскага жыцьця» пабачуць ясна, як стаіць справа.

Пабачуць і зразумеюць, чаму польскія палітыкі ідуць да нас «з голымі рукамі».

I дасканальна уцямяць, з кім па дарозе беларускаму народу: ці з братнім польскім народам ці з катнім польскім панам?

Калі гэты дэгенерат ня хоча даць зямлі свайму польскаму селяніну, што-ж ён дасьць селяніну беларускаму?

I што, апроч голых рук, могуць мець абаронцы уніі, пакуль у Польшчы пануюць паны? — Нічога!

Дзегаць, скуру, збожжа і усё, што у вас ёсьць, і будуць папікаць вас сольлю ці яшчэ чым-небудзь, што дадуць вам, узяўшы з вас у сто разоў больш. Ось падумайце аб гэтым, астанавіцеся над пачуцьцем польскіх сялян, якія выходзілі з салі пасяджэньня з пяяньнем: «О чэсьць вам, панове магнаты, за нашую няволю і нашыя кайданы»...

А. С—ва.

## II беларускі вучыцельскі зьезд Горадзеншчыны.

У нядзелю, 6 ліпня, у Горадні адбыўся зьезд беларускага вучыцельства Горадзеншчыны. На гэтым зьездзе было 25 прадстаўнікоў арганізаванага народнага вучыцельства. У прэзыдзіум зьезда былі выбраны: старшынёй Тамаш Грыб, намесьнікам старшыні Пауліна Мядзіолка і пісарам В. Шаленко.

Пасьля дакладаў з месц, у якіх выясьнілася вельмі цяжкае палажэньне беларускага народнага вучыцеля на вёсцы пад час польскай акупацыі, былі заслуханы даклады аб мэтадах навучаньня у роднай мове—П. Мядзіолка і аб працоўным мэтодзе навучаньня ў народнай школе—Т. Грыб.

У канцы засяданьня былі вынесены вось гэткія пастановы:

1. Беларускі вучыцельскі зьезд Горадзеншчыны дамагаецца перад Цэнтральнай Радай Віленшчыны і Горадзеншчыны, каб Рада затрэбавала ад польскай окупацыйнай улады спыненьня перашкод у культурна-асьветнай працы беларускім вучыцялём на мясцох, а таксама каб была дадзена магчымасьць вольна рабіць сходы ў справе народнай асьветы і організацыі Грамад Беларускай Моладзі і Беларускіх Народных Хат.

2. Дзеля таго, што ў Горадзеншчыне вельмі мала ёсьць народных школ і што польская окупацыйная ўлада адчыняе ўсюды школы толькі польскія, беларускія-ж шмат дзе пазачыняла, — Беларускі вучыцельскі зьезд Горадзеншчыны дамагаецца перад Ц. Р. В. і Г., каб Рада настаяла перад польскай окупацыйнай уладай аб тым, што ўсе беларускія народныя школы, якія пазачынены па распараджэньню гэтае улады, каб усе яны былі йзноў адбудованы і каб у будучыне адчыняліся школы толькі беларускія, якіх жадае сам народ.

3. Каб усе назначэньні вучыцялёў у школы рабіліся ў паразуменьні з Радай Беларускага Вучыцельскага Саюзу Горадзеншчыны.

## Польскія сяляне засьцерагаюць нас.

Зьвер, страшны зьвер, які крыўся за прыгожымі словамі польскай эндэцыі аб правох народа, паказаў свой твар на гістарычным 64 пасяджэньні, калі прыйшлося уласьнікам зямельных абшараў аддаваць сваю зямлю «хлопу», г. ё. таму народу, за якога на словах яны на ўсё гатовы. Пан X. пэўна падумаў: «Я не магу проціў свайго сумленьня ісьці і буду галасаваць проціў, але пэўна паны I і Z будуць галасаваць за. Але паны I і Z у гэтым былі солідарны з панам X, і ось што мы бачым: аграрны праэкт, аб якім пратрубілі на ўвесь сьвет, праваліўся, і паны паказалі сябе ў такім сьвеце, ў якім яны запраўды ёсьць. Гульня ў словы скончылася і, калі прыйшлося перайсьці да справы, паны паказалі і свой гонар і сваю культуру. З гэтай культурай яны хочуць прыйсьці і да нас і пакуль што таксама гуляюць з намі ў добрыя адносіны, але ў душы кажуць сабе: «Каб нам толькі захапіць іх, то яны, гэтыя беларусы, будуць пасьці ў нас сьвіньней». Дзе-ж ваш гонар, скажыце, калі вас адпіхаюць, вас ня хочуць, а вы ўсё-ж туліцесь да нас, усё цягніце нам свае абоймы. Дзе-ж ваша культура, калі вы пасылаеце вашых агітатараў у вёскі, і яны кажуць там, што сяляне прападуць адны бяз Польшчы, бо ў іх няма грашэй, солі, фабрык і т. д., ужо ня кажучы аб тых вялізных намаганьнях, якія робіць клерыкал-палянізатар. Але вы, тыя, што прыслухіваецеся да галасоў гэтых гадаў, падумайце, чаго-ж яны каля вас круцяцца, чаго ідуць да вас, шэрых і бедных, чаго яны ад вас хочуць, калі у вас нічога няма даць ім за фатыгу. I калі вам абяцаюць і даюць горстку мукі ці сала, то вы падумайце, што гэта ласка Амэрыкі і што гэта самае атрымліваюць і сербы, і румыны, і Аўстрыя, і калі будзе бальшавізм спынены, то і Расея атрымаець таксама,—але-ж гэтым народам ня трэба адмаўляцца ад сваёй бацькаўшчыны, але-ж зразумейце, што гэта акт гуманізму Амэрыкі і ніхто ня вымагае ад вас, каб вы сваё старшынства ў краё прадавалі за горстку мукі.

Каб вы самі сваімі рукамі аддалі сябе ў няволю. Паны будуць браць у вас лес,

4. Зьезд дамагаецца перад Ц. Р. В. і Г., каб у як найхутчэйшым часе былі адчынены ў Горадні краткасрочныя курсы для вучыцялёў.

5. Зьезд даручае Радзе Саюза, каб яна ў як найхутчэйшым часе выясніла грашавую справу, дзеля таго, што вучыцялі не атрымалі належнай ім пэнсіі з таго дня, як зьявілася польская акупацыя, т. ё. за красавік, травень і чэрвень.

6. Зьезд даручае ў далейшым вясьці ўсе справы Саюза Радзе Саюза, якая была выбрана першым Б. В. З. Г.

7. Зьезд выказвае пажаданьне, каб усе беларускія вучыцялі Горадзеншчыны належалі да Беларускага Вучыцельскага Саюзу Горадзеншчыны.

8. Зьезд даручае Радзе Саюза, каб яна паклапацілася ў як найхутчэйшым часе заснаваць у Горадні Цэнтральную Беларускую Кнігарню і Бібліатэку дзеля пашырэньня роднай літэратуры на вёсцы.

# Конфэрэнцыя Б. П. С.-Р. Горадзеншчыны.

6 ліпня у Горадні адбылася канфэрэнцыя Беларускай Партыі Социалістаў-Рэволюцыанэраў Горадзеншчыны. Конфэрэнцыя аб сучасным агульна - палітычным палажэньні вынясла вось гэткую рэзолюцыю:

Беларускі народ, які ў сваёй абсалютнай большасьці складаецца з працоўнага сялянства, пад час сусьветнага змаганьня працоўнага народу за ўстанаўленьне сацыалістычнага ладу ва ўсіх краёх, які нясе волю і шчасьце ўсім прыгнецяным народам, высвабаджэньне працы ад вызыску капітала і вольнасьць развіцьця ўсіх духоўных багацьцяў кожнае чалавечае асобы—ня можа ў гэты вялікі гістарычны мамэнт ня стаць у рады байцоў за гэты сьветлы ідэал людзкога шчасьця.

Беларускі працоўны народ зьвязаў сваю лепшую долю з Вялікай Расейскай Рэволюцыяй, якая адным з аснаўных сваіх дамаганьняў выставіла змаганьне за вольнае права на нацыянальнае самазначэньне усіх прыгнецяных народаў. Але рэволюцыя толькі тагды зможа прынясьці вялікую карысьць усей працоўнай клясе, калі яна будзе насіць сусьветны характар. У той час, як у Расеі была рэволюцыя, у якой беларускі працоўны народ прыймаў самае актыўнае учасьце і займаў сярод іншых народаў быўшай Расеі не апошняе места,—працоўныя народы Эўропы былі захоплены ўзаемнай крывавай вайной, кожны паасобку падтрымліваючы імпэрыялізм сваёй буржуазіі. Голас Вялікай Расейскай Рэволюцыі праз фронт штыхоў не пачулі працоўныя народы Эўропы і ня зрабілі належнай дапамогі ў гэтым вялізазным змаганьні. Расейская рэволюцыя была задушана бальшавіцкім комісарадзяржаўным рэжымам, які сыстэматычна сваім тупым чырвоным тэрорам падгатаўляе новую чорную рэакцыю, якая настане ўзамен істнуючай чырвонай.

Маскоўская камуністычная ўлада перад усім сьветам ганебна адмовілася бараніць лёзунгі Вялікай Расейскай Рэволюцыі. Яна на паперы нібы прызнае незалежнасьць Беларускай, Літоўскай, Украінскай і іншых радавых рэспублік, але ў той-жа самы час пасылае сваіх намесьнікаў у выглядзе членаў цэнтральнага камітэту расейскай камуністычнай партыі, каторыя ня толькі ня прызнаюць незалежнасьці гэтых рэспублік, але навет усімі спасабамі стараюцца зусім зьнішчыць уселякія адзнакі нацыянальнай самабытнасьці гэтых народаў. Гэтак пасту пілі маскоўскія камуністы з Незалежнай Беларускай Радавай Рэспублікай, калі іх намесьнік „его величество" Іоффэ падзяліў Беларусь на дзьве часткі і адну далучыў да Маскоўшчыны, а другую да Літвы, стварыўшы такім парадкам Літоўска-Беларускую Радавую Рэспубліку, якая зьяўляецца простай фікцыяй толька на паперы. Ня інакш гэтае пытаньне стаіць на Украіне, дзе «его величество Ракоўскі ў апошні час таксама далучаў да Маскоўшчыны усю Украіну.

Сваёй бязумнай палітыкай у зямельнай справе--нацыяналізацыя зямлі--гэта значыць, каб апралетарызіраваць сялянства, ці інакш кажучы, каб усіх сялян зрабіць батракамі, маскоўскія камісарадзяржаўныя імпэрыялісты паставілі процій улады бальшавіцкіх радаў усё працоўнае сялянства, якое перастае больш ужо верыць у пекныя словы «геніальных вождей мирового комунизма» Леніна, Троцкага і К-о, адчуваючы на сваім карку гнёт і розныя зьдзекі камісараў, розных карацельных экспэдыцыяў і экспэдыцыяў па хлеб.

Але у гэты мамэнт пачынае ўзрастаць рэволюцыйны рух у Эўропе. У Нямеччыне, у Чэхіі, у Румыніі, Францыі, Італіі, Англіі і іншых краёх працоўныя масы не згаджаюцца з палітыкай Версальскіх тайных дыплёматаў і сваімі забастоўкамі, як, напрыклад, нядаўна адбыўшай агульнай забастоўкай у Францыі—пратэстуюць процiў міра з анэксіямі і контрыбуцыямі.

Антанта прызнала ўсерасейскім урадам контр-рэвалюцыйны, чорна-рэакцыйны ўрад адмірала Колчака, які маецца «собрать воедино все русския земли» і даць «куцую» аўтаномію усім нацыям бывшай царскай Мікалаеўска-Распуцінскай Расеі.

Антанта прызнала клерыкальна-імпэрыялістычны ўрад Польшчы, прадстаўнікам якой на мірнай конфэрэнцыі зьяўляецца вядомы расейскі царскі бюркрат Дмоўскі, каторы разам з панамі Сазонавым, Ізвольскім і іншымі, гэтымі вернымі слугамі Маскоўскай чорнай рэакцыі, хоча падзяліць Беларусь на часткі і адну далучыць да Польшчы, а другую да Маскоўшчыны. На гэтым яны хочуць паміж сабой памірыцца—«стварыць праўдзівы мір»...

Антанта таксама, як і маскоўскія комуністы, толькі на паперы прызнае права на вольнае нацыянальнае самазначэньне ўсіх народаў. Антанта дзеля карысьці сваёй буржуазіі падтрымлівае толькі дужых, каб эксплуатаваць слабых.

Але Эўропа стаіць на парозе рэволюцыі. Гэта рэволюцыя будзе Вялікай сусьветнай социалістычнай рэволюцыей. Гэта будзе апошні і рашучы бой за социялізм.

Усе пастановы мірнай конфэрэнцыі, якая цяпер засядае у Версалі ў адзін мамэнт будуць зьнішчаны паўстаўшымі народамі Эўропы.

Беларускі працоўны народ здабудзе сабе права на вольнае нацыянальнае самазначэньне толькі ў сусьветным саюзе ўсіх прыгнецены народаў. Беларусь будзе вольнай толькі тагды, калі будуць парваны апошнія ланцугі гнёту і зьдзеку ча-

# Дзьве душы.*)

IX.

Іншыя натуры, каб жыць далей і мець нейкі спакой, чуюць пільную патрэбу у яснасьці і добрай цямнасьці ува ўсім, што ёсьць навакол, і таксама у сваім жыцьці за астатні, пасьля такога-ж уразуменьня, час. Гэткіх натур найболей сярод славянаў і народаў Усхода. Яны патрабуюць нейкага задавальненьня і спакою духа ў адносінах да ўсяго, што есьць і што дзеецца на сьвеце. Час да часу проста карціць ім упарадкаваць думкі свае—гэта азначае: хоць і не разьвязаць спрадвечнага пытаньня: «Аткуля ўсё і што яно?» — дык хоць супакоіць сябе, палумаўшы, палятуцеўшы і зноў набраўшыся яснасьці ў поглядах на спрадвечна няяснае. З аднаго боку гэта выглядае патрэбным чалавеку падрахункам, а з другога боку — непатрэбнай і шкоднай штукай у такую пару, калі «грошы—час».

Найбольш яснасьці маюць людзі ў саўсім маладым ці саўсім старым веку. А людзі веку сярэдняга ня маюць на тое часу сярод клопату і клуму жыцьця. Дзе-ж і калі-ж тут падумаць і ўцяміць аб сабе і аб сьвеце, раз навокал усё круціцца казаў той, у скоках, раз навокал усё гручыць, як грузавы аўтамабіць па каменьню.

Цямнасьць тую часам неўспадзёўкі знаходзяць, аднак, і яны на глухой прасёлкавай дарозе, праехаўшы па ёй кольkідзесят вёрст.

Ціхая бязьлюдная дарожка сярод жыта, ці сярод сумнай імглы восені, ці навет узімку, сярод белага скутага сьцюжаю поля, даець патрэбны спакой і родзіць у душы патрэбную, хаця-ж невясёлую, але ціхамірную яснасьць.

Залежыць тое і ад спосаба язды.

Патрошку цюхціў кары конь, бразкаючы банячкаю на дузе. Ен падзаваў шпаркасьці там, дзе дарога роўная-роўная, а яшчэ—з невялічкай горкі; але найчасьцей выпадала ісьці ступою: то з крутой гары, то па грэблі, то йзноў пад вялікаю гару; а роўнасьці па дарозе мала.

Калі патроху забылася прыкрасьць з вучням-агітатарам,калі сумная і родная імгла восені ізноў патрошку ахоплівала сэрца, Абдзіраловіч пачаў набірацца той яснасьці.

І як маўклівасьць белабрысага, з чырвонай, зморшчанай шыяй падводніка ў белым жупане і белай маргелцы; і як аднатоннасьць дарогі; і як хваравітая прыемнасьць ад мулкасьці на нядрогкіх калёсах, што зьявілася няўпрыцям намест мягкасьці падсьцеленага сена і пераходзіць неўзнаку у нейкую анямеласьць, калі праехаў, нявылезаючы, дваццаць, а можа і трыццаць вёрст; як самая дарога, — так цягнулася і такою была чарада яго думак, у канцы каторай павінна была наступіць яснасьць, як станцыя у канцы дарогі, хоць і тысячы станцый, апрача гэтай ёсьць яшчэ на сьвеце, хоць і шмат іх яшчэ дазядзецца праехаць за ўсё жыцьцё.

*) Гл. №№ 24—40.

